№ 37. Ausgabe B.

# ГОМАН

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты:

на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы — 1 м. 20 ф., на 1 мес. — 40 фэн.

Беларуская Віленская часопісь

выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакціі: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністрацііі і экспэдыцыі: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак:

на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі — 25 фэніг.; дробные абвесткі— па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці — 60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 37 (129). Год II. Вільня, 8 мая 1917 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

## На усходзі спакойна.

### 7 мая.

**Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: Пры Ленс і Аррас і далей на ўсход да Вількур агонь артылерыі дайшоў вялікай сілы. Ворагі абстрэлівалі Сэн-Кантэн і ізноў руйнавалі катэдру.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* Пасьля цяжкіх страт 5 мая французы ўчора да абеда не пачыналі новых штурмоў. Толькі паабедзі вялікіе сілы пайшлі у атаку між Фор дэ Мальмэзон і Брэ, але былі без астатку адбіты.

У вечары і ў начы пачаліся вострые атакі на поўначы ад Ля Фо і дарогі Суассон-Ляон. У крывавай бітве мы ўчынілі ў ворагоў цяжкіе страты і удзержалі ўсе нашы пазыціі.

Каля Зімовай гары бітвы трывалі ўвесь дзень. Мы адабралі паўночны склон і удзержалі яго супроць чысьленых штурмоў ворагоў. Шэврэ — ў нашых руках.

Ад 5 мая між Суассон і Рэймс узяты ў палон 9 афіцэроў, 726 салдатоў, здабыты 41 кулемёт і шыбкастрэльные стрэльбы.

---

Учора збіты 14 самалётаў ворагоў.

**Усходні тэатр:**

Ня лічучы дзе-не-дзе агня, на ўсенькім фронці спакойна.

*Македонскі фронт*: У завароці Чэрнай артылерыйская бітва дайшла значнай сілы. На заходзі ад Вардара наступленьня ворагоў проці боўгароў адбіты.

---

ЛОНДОН. «Daily Mail» даносіць с Пецярбурга:

Дзеля абароны намечэных тымчасовым урадам крокаў прыбылі з Масквы ў Пецярбург верные ураду кавалерыйскіе палкі.

ГААГА. У тую пятніцу на Неўскім праспэкці былі стычкі між салдатамі і староннікамі Леніна. Каля 3.000 членоў партыі Леніна зрабілі паход праз вуліцы са сьпевамі. 800 асоб мелі стрэльбы і шаблі. Дэмонстранты несьлі знамёны з надпісамі: „Вон правіцельство! Даволі вайны!“ Некольki работнікоў стрэлялі ў салдатоў, якіе хацэлі вярнуць лад.

ПАРЫЖ. С Пецярбурга данесяць, што вялікі князь М'калай Мікалаевіч назначэн за губэрнатара ў Туркестані.

ЖЭНЕВА. Англіцкі глаўнакамандуючый Гэг паслаў тэлеграму расейскаму глаўнакамандуючаму Алексееву, віншуючы з назначэньнем. Адказываючы яму, Алексеев адпісаў: „Вы можэце быць перааконаны, што, ня гледзячы на труднасьці, звязаные с пераменай ладу, расейская армія знае свае абавязкі перад адважнымі саюзьнікамі. Як толькі пазволяць варункі клімату, яна сваім наступленьнем акажэ пасільную паддзержку саюзьнікам“.

БЭРН. (В.Т.Б.). Ліонскіе газэты пішуць, што тымчасовы расейскі урад зацьвярдзіў Ізвольскаго на становішчы пасла ў Парыжы. Ізвольскі падаў прэзыдэнту рэспублікі свае паўнамочча.

БЭРЛІН. (В. Т. Б.). Болей за мільён англічан і французоў б'юцца ў баю. У нячутым змаганьні на заходзі саюзьнікі кінулі ў бітву ўжо больш за мільён душ. Англічане ўвялі ў бой 44 дывізіі, ў тым ліку 12—другі ўжо раз; гэта становіць 700 000 душ. Французы прабавалі дайсьці пабеды поўнымі 53 дывізіямі, чыслом больш за 400.000 душ. Ядыны рэзультат гэтых вялізарных выступленьнёў—гэта аграмадные страты.

ГААГА. З Вашынгтону данесяць:

Амэрыканскі флот выехаў дзеля змаганьня с падводнымі лодкамі.

ЖЭНЕВА. Як піша «Matin», амэрыканскіе ваенные караблі прыбліжаюцца да эуропэйскіх вод.

---

*Вільня, 8 мая 1917 г.*

Тая сіла, якую мае ў Расеі рада работнікоў і салдатоў, зусім справядліва званая «пабочным правіцельствам»,—паказвае нам найлепей, што настаў чарод работніцкім массам выступіць на арэну грамадзкаго жыцьця і сваей крэпкай рукой пакіраваць будоўляй фундамэнтоў новаго жыцьця народаў.

Ясна для кожнаго, што новы лад будзе залежаць ад таго, хто яго збудуе. І калі пролетарыат у Расеі ня здолее зрабіць належнаго кроку і прыняць актыўнае участьце ў творчай рабоці, дык тую работу зробяць другіе — зробіць тая лібэральна-нацыоналістычная буржуазія, каторая без ніякаго сумлеваньня пастараецца ў новым ладзі забаспечыць для сябе чым большую ўласць.

Тое-ж можэм сказаць аб нашым Краю. Раней ці пазьней, у тэй ці іншай формі грамадзянство ў нас будзе паклікано да організацыі новаго жыцьця ў нашай Бацькаўшчыне. І характэр новай грамадзкай і дзержаўнай організацыі будзе ў нас залежаць ад тых элемэнтоў, якіе патрапяць прылажыць руку да яе будовы.

Хто-ж у нас становіць найбольш чынны і творчы элемэнт?

Дагэтуль—трэба гэта сабе ясна сказаць—такім элемэнтам была буржуазія, каторая мела і мае найбольш інтэлігентных сіл. Ясна, што яна і перэважыць пры будове новаго нашаго быту, калі массы местоваго і вясковаго рабочаго народу не здалеюць, як трэба, організавацца, ня знойдуць у сваіх радах даволі культурных работнікоў, каторые патрапяць даць адпор буржуазным элемэнтам.

У апошніх часах мы бачылі ў нашым краю даволі сільны рух да концэнтрацыі нацыональных сіл у кожнаго народу, які тут пражывае. Концэнтрацыя гэта, злучаючы на грунці агульных нацыональных спраў усе грамадзкіе групы і кірункі народу, магла, аднак, трываць толькі датуль, пакуль не узнімецца справа устройства на новых асновах жыцьця нашай Бацькаўшчыны. І вось цяпер, калі мы стаімо напярэдодні развязкі гэтай справы, нацыональные концэнтрацыі губляюць грунт пад нагамі: работнік і багатыр-капіталіст, мужык-хлебароб і пан-абшарнік ніколі ня здолеюць знайсьці такой формы палітычнаго ладу, каторы здаволіў-бы абедзьве стараны.

Настаў час, каб шчыра дэмократычные элемэнты, каторые ешчэ не разарвалі зусім ненатуральнаго і ўжо несваечаснаго саюза са сваей нацыоналістычнай буржуазіей, зразумелі, што ім трэба зрабіць выбар: с кім ісьці. І той, хто, сам не належачы да работніцкай клясы, ўсёж-такі шчыра стаіць за справы працоўнаго народу, павінен пайсьці далей поплеч с пролетарыацкімі массамі і працоўным селянствам, каб творчай працай забаспечыць ясную будучыну тым, хто сваімі рукамі творыць багацьце нашай стараны.

---

## Селянскі рух.

Тэлеграмы што-дзень прыносяць весткі з Расеі аб разрастаючымся ўсё болей і болей селянскім руху. Рух гэты вельмі напамінае знаны аграрны рух 1905 году: як тады, так і цяпер селяне ў Расеі, а ў тым ліку і ў Беларусі (напр. у Міншчыне) дабіваюцца раздзелу між хлебаробамі безмяжовых абшароў дворных, царскіх і казённых зямель. І хоць у дайшоўшых да нас вестках гаворыцца, што рэволюцыйнае селянство выстаўляе так-жэ і палітычные жаданьня, — мы можэм сьмела сказаць, што земля—гэта аснова ўсяго руху.

У гэткай аднастароннасьці — і сіла і слабасць селянскаго руху ў Расеі. Сіла—бо ўся энэргія згаладаўшых і прыніжэных „мужыкоў“ кіруецца толькі да аднэй мэты; слабасць—бо пры неўдачы, пры немагчымасьці здабыць зямлю многамільённые мужыцкіе грамады губляюць звязь між сабой, і іх у адзіночку заўсёды ўмелі паняволіць пануючые станы і паслушнае ім царскае правіцельство. Вось-жэ, каб селянскі рух стаўся такой сілай, якой нельга зьнішчыць і аслабіць ні ў якім прыпадку, — сілай, каторая выяўлялася бы ва ўсіх справах грамадзкаго і гасударственаго жыцьця,—рух гэты павінен стацца ўсестароннім, павінен апірацца як на супольнасьці інтэрэсоў сельскіх работнікоў і малазямельных хлебаробаў, так і на падняцьці культурнасьці іх.

Вельмі цікава тое, што ў суседняй з намі Польшчы селянскі рух губляе агульна-расейскі рэволюцыонізм, і ў ім перэважывае культурная старана. Падобне, як у заходняй Эуропі, польскіе селяне пайшлі па дарозі організацыі і самапомачы на экономічным грунці, закладаючы чысьленые коопэратывы, крэдытовые таварыствы, сельска-гаспадарскіе суполкі і т. п. Гэтак, маючы вольные грошы, яны маюць магчымасць на грамадзкі кошт адкрываць як пачатковые народные школы, так і спэцыальные — сельска-гаспадарскіе, а нават і гімназіі. У Калішскай губэрні, ў вёсцы Ліёково, знанай

народную школу. Навука — бясплатная.

Падобные курсы будуць і ў Тэльшах.

ЛІБАВА. Местовае упраўленьне назначыло 80 рэвізораў кватэр. Яны павінны агледаць кватэры, якая ў іх чыстасць.

МІТАВА. Найстарэйшы чэлавек ва ўсім краю — гэта, як выказаў спіс пашпартоў, латышка, дажыўшая 119 гадоў. Яна радзілася ў 1798 гаду. Калі яна была дзяўчынкай, латышы жылі яшчэ пад панчынай і ня мелі сваей літэратуры.

## Апавешчэньне.

### 1000 марак награды.

14 красавіка шасьцёра расейскіх ваенных напалі на ляндштурмманна Штэйнбэка, 73 гаспадарскай роты, ў вёсцы Відгеры, каля Грычкабуды, Владыславоўскаго пав., і застрэлілі яго. Яму было загадано вышукаць у вёсцы малочных кароў, узяць пробы малака і знайсьці укрытае збожжэ.

Жандарскі патруль у Грышкабудзе даве́ў, што напасць была зроблена на падворку гаспадара Кабельскаго ў Відгерах. Труп сперша закапалі ў гумне; вечэрам, як сцямнело, яго выкапалі адтуль, прывязалі да яго камень і кінулі ў суседнюю сажалку.

21 красавіка труп быў знойдзен.

Корпусная жандармэрыя арэштавала дагэтуль 11 асоб, каторые былі пры тым, або ведалі аб бытнасьці расейцоў у вёсцы, але аб гэтым не данасьлі.

Вінавайцы дагэтуль не маглі быць выкрыты.

Хто задзержыць вінавайцоў, або іх супольнікоў, ці дасць ведамасьці, каторые дадуць магчымасць арэштаваць і пакараць іх, той атрымае награду да 1000 марак.

Усе ведамасьці трэба даваць Крэйсгаўптману у Владыслаўове, або на найбліжэйшую жандарскую станцію.

Цяжкіе кары ждуць тых, хто дасць вінавайцам схоўку ці якуюколечы помач.

Вільна, у маі 1917 г.

Der Chef der Militärverwaltung Litauen
Franz Josef Fürst von Isenburg-Birstein
Oberstleutnant á la Suite der Armee

## З усяго сьвету.

ЖЕНЕВА. Сьвяткаваньне 1 мая французскімі соцыалістамі і прафэсыональнымі саюзамі — гэта была вялізарная дэмонстрація за перагаворы і мір. На мітынгу, які адбыўся у гмаху парыжскіх прафэсыональных саюзоў, было 10.000 душ. Мітынг прыняў рэзолюцію аб міры, але цэнзура не пазволіла надрукаваць яе.

Агульна-работніцкі саюз выпусьціў 1 мая адозву, выяўляючы згодлівасць французскаго пролетарыяту с праграмай расейскіх соцыалістоў, каторые жадаюць міра без заваеваньнёў і аннэксій.

БЭРЛІН. Соцыал-дэмократы падалі ў Рэйхстагу запрос правіцельству аб яго ваенных мэтах.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). Камісія дзеля прагляду конституціі адбыла першую нараду. Прэдлажэньне соцыал-дэмократоў аб рэформі выбарнаго права дамагаецца, каб выбары ў Рэйхстаг адбываліся на аснові агульных, роўных, простых і прапорцыональных выбароў с тайнай падачай галасоў. Права падаваць голас павінно прыналежаць усім грамадзянам Нямеччыны, скончыўшым 20 гадоў, бяз розніцы полу. Падобнае-ж выбарнае права павінно быць устаноўлено ва ўсіх нямецкіх краёх і ў Эльзас-Лотарынгіі.

РОТТЭРДАМ. «Times» дамагаецца, каб караля Константына чым скарэй выдалілі з Грэціі, каб ваенные опэрації на Балканах маглі развівацца без прашкод.

ПАРЫЖ. Прафэсар Пінар пішэ ў «Journale»:

„Францыя ідзе на-сустрэч сваей пагібелі: за апошніе 4 месяцы 1914 г. на 100 прыпадкоў сьмерці выпадало 71 нарадзін; у 1915 г.— на 100 прыпадкоў сьмерці — 65 нарадзін; у 1916 — на 100 сьмерцей—42 нарадзіны; ў 1917 — за першые 3 месяцы — на 100 прыпадкоў сьмерці -30 нарадзін".

# Рэволюція у Расеі.

ПЕЦЯРБУРГ. Генэраліссімус Алексеев прыбыў на Рыжскі фронт.

Генэрал Брусілов прыказам па арміі забараніў салдатам паддзержываць зносіны з ворагамі, каторые карыстаюць з гэтаго дзеля шпіёнства.

ЛОНДОН. «Morning Post» даносіць:

За апошні час Пецярбург стаўся арэнай партыйнаго змаганьня. Спакўйные справы не паправіліся, а баспечнасць асобы памяншала. Узрастае число цяжкіх праступкоў.

Паводлуг фінляндзкіх газэт, у расейскай арміі будзе скасован чын афіцэра. Усе члены арміі будуць называцца салдатамі, а камандуючые генэралы—камандуючымі салдатамі.

ЛЮГАНО. Corr. della Sera даносіць аб вострых напасьцях на Леніна і яго староннікоў.

Камітэт афіцэроў зажадаў ад рады работнікоў і салдатоў арэшту Леніна, каб зрабіць яго няшкодным. Аднак, гэтае жаданьне было адкінуто ў імя свабоды.

На вуліцах і сходках часта узнімаюцца вострые стычкі між староннікамі і ворагамі Леніна. Пры гэтым адны адных арэштоўваюць.

ПЕЦЯРБУРГ. (П.Т.А.). Па загаду тымчасоваго ураду, народу дадзено права саюзоў і сабраньнёў.

КОПЭНГАГА. «Socialdemokraten» атрымала з Брюссэля тэлеграму ад двох расейскіх соцыалістоў: Романова і Татарінова, каторые просяць пасладь тэлеграму далей—у Пецярбург на рукі Чхэідзэ і Керэнскаго. У тэлеграме гаворыцца:

„Група палітычных эмігрантоў просіць вас даць ім магчымасць вярнуцца ў Расею ў замену на адпаведнае число цывільных палонных немцоў, якіе знаходзяцца ў Расеі.

„Члены 2-ой Дзержаўнай Думы:
Романов
Татарінов".

ШТОКГОЛЬМ. Рада работнікоў і салдатоў апавяшчае сваю заяву, кажучы:

„Расейская дэмократыя не мае нічога супольнаго з заявамі Мілюкова аб мэтах вайны. Наадварот, расейская рэволюцыйная дэмократыя не дапусьціць, каб дзеля гэткіх і ім падобных мэт ліляся кроў. Рада работнікоў згодліва ўсемі галасамі выказала жаданьне міра без заваеваньнёў і адплат, ды ад гэтай заявы ніколі не адрачэцца".

КОПЭНГАГА. Паводлуг вестак с Пецярбурга, у глаўнай камандзе і ў тымчасовым урадзе пануе ўнутраная нязгода, каторая выклікае розные перамены у складзі каманды. У пецярбурскіх кругах кажуць, што генэрал Алексеев, толькі-што грыехаўшы на рыжскі фронт, пастараецца выдаліць непрыхільных яму і небаспечных сваімі здольнасьцямі генэралоў і замяніць іх сваімі прыхільнікамі.

ЛОНДОН. «Daily News» даносіць с Пецярбурга:

Паводлуг упорных чутак, Мілюков выйдзе у адстаўку.

ШТОКГОЛЬМ. У тутэйшых расейскіх кругах думаюць, што тымчасовы урад перэбярэцца с Пецярбурга ў Маскву, бо ў Пецярбурзі ён ня чуецца больш баспечным с прычыны пераходу войск на старану рады работнікоў і салдатоў.

ШТОКГОЛЬМ. Між абедзьвымі групамі работнікоў, с каторых адна трэбуе 8-мі, а другая—5-ці гадзіннаго рабочаго дня, як пішэ «День», былі крывавые стычкі на фабрыках. Некольки работнікоў забіты, многа цяжка ранены.

ПЕЦЯРБУРГ. (П.Т.А.). С прычыны разрухоў спаўніцельная камісія рады работнікоў і салдатоў усемі галасамі пастанавіла на два дні забараніць уселякіе сабраньня і дэмонстрації. Кожнаго, хто устроіць аружную дэмонстрацію ці пачне стрэляць, будуць лічыць здраднікам справы рэволюції. Спаўніцельная камісія у адозве сваей прызывае народ да спакою, парадку і дысцыпліны і вымагае, каб салдаты хадзілі без аружжа і спаўнялі загады спаўніцельнай камісіі толькі праверыўшы іх. Адозва прызывае работнікоў і міліцію хадзіць на сабраньня і дэмонстрації без аружжа.

ЖЭНЕВА. Гавас даносіць с Пецярбурга:

Спаўніцельная камісія работнікоў і салдатоў заявіла, што яна парупіцца, каб работніцкіе дэмонстрації прыпыніліся.

Газэты крайніх левых далей нападаюць на тымчасовы урад і на Мілюкова.

Партыя кадэтоў выпусьціла адозву, прызываючы народ асьцярожна аднасіцца да напасьцей на тымчасовы урад, каторы не ведзе палітыкі заваеваньнёў, а толькі палітыку волі, чэсьці і баспечнасьці расейскаго народу.

ПАРЫЖ. «Temps» даносіць с Пецярбурга, што пры спаўніцельнай камісіі рады работнікоў і салдатоў уладжэно бюро дзеля заграничных зносін с чужымі дзержавамі. Член думы Скобелев назначэн за кіраўніка гэтаго бюро.

ШТОКГОЛЬМ. Число салдатоў, пакінуўшых армію без пазваленьня, каб быць пры раздзелі зямель, даходзіць чверці мільёна.

АМСТЭРДАМ. Глаўнакамандуючый Алексеев прыбыў у Пецярбург дзеля перэгавороў з ваеннымі міністрамі, службовае палажэньне каторага с прычыны хваробы няцьвёрдае.

# ТЭЛЕГРАМЫ.

## Нямецкіе апавешчэньня:

### 4.V. Заходні тэатр:

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: На фронці Эн, 30 кілёмэтроў шырокім, адбіта новая спроба прарваца, зробленая 16 ці 17 дывізіямі. Толькі ў Фрэнн ворагі ўварваліся. Пры Більќур у руках ворагоў асталіся невялікіе часьці пярэдняго акопу. Апрыч вялікіх крывавых страт, ворагі утрацілі больш за 1000 палонных.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* На поўначы ад лініі Суассон—Рэймс артылерыйская бітва ідзе поўным ходам. Пры Брэ агнём адбіты некольки французскіх штурмоў.

Ворагі утрацілі 10 самалётаў.

### Усходні тэатр:

У Карпатах, на поўначы ад даліны Сусіта, была неўдачная атака трох расейскіх батальёноў.

*Македонскі фронт*: У розных месцох момантамі востры агонь артылерыі.

### 5.V. Заходні тэатр.

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: На фронці Аррас ўчора ішлі бітвы толькі наабапол Більќур. Агульнае число палонных узрасло да 10 афіцэроў і 1225 англіцкіх салдатоў. Узяты ня меней 35 кулемётаў.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* Між Эн і Брімон адбіты штурмы 4 французскіх дывізій. На ўсходзі ад Ля-Нэвіль узяты 500 палонных французоў і некольк. кулемётаў. На поўначы ад Пронн адбіты французскіе штурмы, ведзеные некалькімі дывізіямі. Пры Норуа узяты ў палон 100 французоў.

Ворагі утрацілі ўчора 7 самалётаў і 1 лятучы шар.

### Усходні тэатр:

Між Ковэлем і Станіславовым—востры расейскі агонь, на каторы мы адказвалі.

*Македонскі фронт*: У завароці Чэрнай, на заходзі ад возера Дойран і ў даліне Струмы востры агонь артылерыі.

### 6.V. Заходні тэатр:

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: У ваколіцах Аррас, наабапол Скарп і пры Кеан адбіты сільные наступленьня англічан. На поўдні ад Камбрэ, пры штурмах на Вільле-Плуіш і Гонліль англічане мелі вялікіе дарэмные страты.

*Фронт нямецкаго Насьледніка*: Пасьля адбітаго французскаго штурма дзеля прарыву, зробленаго 16 красавіка, французы ўсемі спосабамі прыгатаўлялі новы штурм. Разбітые дывізіі былі заменены другімі. Артылерыйскі і мінамётны агонь з дня на дзень крапчэў і дайшоў найвялікшай сілы за ўвесь час вайны. Ўчора раніцай між Элет і Краон пачаўся новы штурм дзеля прарыву на шырыні 35 кілём. У цяжкай бітве, трываўшай да познай ночы, аграмаднай сілы удар, агульне кажучы, адбіт. У паадзінокіх пунктах ешчэ трывае бітва за нашы пярэдніе акопы. З асаблівай сілай штурмавалі французы Зімовую гару, на каторай нашы пазыцыі былі з усіх бакоў зруйнованы агнём. Гара і вёска Шэрвэр на склоні яе асталіся ў руках французоў. Узяты ў палон некольки сот французоў. Число ўзятых 4 мая палонных дайшло 672, а дабыча—20 кулемётаў і 50 шыбкастрэльных стрэльб.

Ворагі утрацілі 14 самалётаў і 2 лятучые шары.

### Усходні тэатр:

Над Одэссай учора з'явіўся першы нямецкі самалёт.

*Македонскі фронт*: Сільны агонь артылерыі ў завароці Чэрнай і пры Параллове.

## Аустрыяцкіе апавешчэньня.

ВЕНА. 4. V. **Італьянскі тэатр:** На ўсенькім фронці артылерыйская і мінамётная бітва. У ваколіцах Гэрцу італьянская атака з газамі не ўдалася. У бітвах на паветры ворагі утрацілі 4 самалёты.

Нашы лятуны атакавалі Кодіго́ро, ў усьці По, і Валону, дзе былі сільные ўзрывы, відочные за 50 марскіх міль.

ВЕНА. 6.V. **Італьянскі тэатр:** Сягоньня ў начы нашым патрулям улалося ў ваколіцах Гэрцу ўварвацца ў акопы ворагоў і ўзяць у палон 1 афіцэра і 50 салдатоў.

---

## З'езд соцыялістоў.

БЭРЛІН. На соцыялістычны з'езд у Штокгольмі едуць з Нямеччыны 9 дэлегатоў.

СОФІЯ. Боўгарскіе соцыялісты Сакаров, Дрыйдров і Янулов выехалі ў Штокгольм. Яны затрымаюцца ў Будапэшці, Вені і Штокгольмі дзеля парэгавораў са сваімі тамтэйшымі аднадумцамі. Здаецца, паедуць ешчэ два боўгарскіе соцыялісты.

БЭРЛІН. Газэты даносяць, што соцыялістычны з'езд у Штокгольмі будзе трываць ажно да замірэньня.

РОТТЭРДАМ. Думка аб штокгольмскім соцыялістычным з'ездзі з'явілася найперш у голандзкіх соцыял-дэмократычных кругах. Да яе далучыліся швэдзкіе соцыялісты. Пасьля былі запрошэны да супольнай працы соцыялісты Даніі і Норвэгіі.

Асобные нарады паадзінокіх дэлегацій пачнуцца 15 мая. Агульная конфэрэнція — не раней 10 чэрвеня. На агульнай конфэрэнціі будуць выступаць члены на моцы пастановы паадзінокіх дэлегацій.

---

## КАЛЯ ВАЙНЫ.

### За чужую справу.

БЭРЛІН. У бітве пры Рэймсе, 39 красавіка, на ўсходзі ад Бэррі-о-Бак, дзе штурмавалі расейцы, на вузкім фронці аднэй дывізіі налічэно 600 расейскіх трупоў.

---

БЭРЛІН. Агульные **страты англічан і французоў** ад пачатку англіцка-французскага наступленьня на Аррас і ў Шампані даходзяць ня менш—**300.000** душ.

БАЗЭЛЬ. Парыжскіе газэты абурэны бязчыннасьцю Расеі, каторая дае немцам магчымасць перакідываць з усходняго фронту на заход вялікіе грамады войска. Пануе пагляд, што Расеі пара ўжо кінуць сьвяткаваньне рэволюціі і прыгатавацца да энэргічнаго наступленьня.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). У начы з 2 на 3 мая на узбярэжжы Фляндрыі мы затапілі у ворагоў маторную торпэдную лодку і так цяжка папсавалі другую, што і яна, трэба думаць, гэтак сама затанула.

ЛОНДОН. (Рэўтэр) Ваенны транспорт «Deιarad», ёмкасьцю 11.120 тонн, з аўстралійскім войскам затоплен 25 красавіка падводнай лодкай у 30 мілях ад берагу. Усіх салдатоў удалося выратаваць.

Англіцкі параход «Geοa», 2864 тонны, затоплен торпэдай, выпушчэнай нямецкім самалётам.

БЭРЛІН (Б.Т.Б.). Ізноў затоплено 18 таргових караблёў, ёмкасьцю разам 56.000 тонн. У гэтым ліку—8 караблёў, 24.500 тонн, у Англіцкім канале.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Ізноў затоплены 7 параходаў і 5 пaруснікоў ёмкасьцю разам 32.500 тонн, большая часць у Англіцкім канале.

БЭРЛІН. (В.ТБ..). Ад 1 красавіка да 6 мая нямецкіе падводные лодкі затапілі больш за 1 мільён тонн.

БЭРЛІН. Фэльдфэбэль Фэснэр, збіўшый 12 самалётаў, пагіб у бітве на паветры.

БЭРЛІН. Англіцкая главная каманда суліць кожнаму, хто заб'еці возьме ў палон у бітве на паветры Ріхтгофэна, збіўшаго ўжо 52 ворагоў, крыж Вікторыі, павышэньне чыну, самалёт, 100.000 м. грашыма і прыз фабрыкі, самалёту, каторай ужываў пабедзіцель.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Соцыял-дэмократычная партыя Рэйхстагу падала гэткі запрос:

„Ці вядома п. Імперскаму Канцлеру, што правіцельство Расеі і саюзны з намі аўстрыяцкі ўрад заявілі згодліва аб сваей ахвоце замірыцца без аннэксій? Што думае зрабіць п. Імперскі Канцлер, каб у згодзі з усімі ваюючымі правіцельствамі спадзеваны мір быў зроблен з агульнаго сагласу без аннэксій і без контрыбуцій?“

ЖЭНЕВА. С французскіх газэт відаць, што у Франціі жаданьне міра узрасло пасьля неўдачных спроб прарвацца на Эн і ў Шампані.

Соцыялістычны «Bonnet Rouge» пішэ, што дагэтуль уся увага была звернена на ваенные опэраціі, а цяпер усе звертаюць яе на пэрэгаворы за зялёным сталом.

ЖЭНЕВА. Паводлуг газэтных вестак з Амэрыкі, тамака ідзе сільны рух проці набору рэкрутоў. Староннікі радыкальных соцыялістоў і староннікі міра апавесьцілі, што яны не явяцца на агляд.



**Друкавана у друкарні М. Кухты.** **Выдавецтво «Гоман».** **Редактар Язэп Салавей.**